


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 2 (138), ЛЮТЫ 2012 ГОДА

**Цытата нумара:**

**Свет у дакладнасці такі, якім мы яго бачым.**

**Паўла Каэльля.**

МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## ІДЫЁТЫ НЕ ЗНАХОДЗЯЦЦА

**Напачатку лютага на пасяджанні выканкаму Беларускай федэрацыі футбола ўласнік групы кампаній "Трайпл" і менскага "Дынама" Юры Чыж выдаў "праўду матку". Гендырэктар ФК "Партызан" Людас Румбуціс прасіў даць два тыдні, каб знайсці грошы для ліцэнзавання клуба. На гэтую просьбу была наступная рэакцыя Юрыя Чыжа: "Хто вам дасць час? Дзе вы за два тыдні знойдзеце ідыётаў за мяжой фінансаваць падобнае ў Беларусі?"**

За гэтай рэакцыяй аднаго з самых багатых асоб Беларусі стаіць горкая праўда пра месца Беларусі ў вачах цывілізаваных бізнесоўцаў. Гэта з аднаго боку, а з другога не менш "сярмяжная " праўда пра становішча беларускага спорту, а дакладней аднаго з самых любімых відаў спорту – футбола.

Ва ўсім цывілізаваным свеце за спортам высокіх дасягненяў, спортам які прэзентуе краіну на міжнародных спаборніцтвах стаяць пераважна прыватныя фундатары, якія умеюць лічыць прыбытак ад укладанняў у спорт. Мільярдэры ўкладаюць грошы ў спартовыя клубы, вядомых або перспектыўных спартсмэнаў разлічваючы на дзве рэчы, як мінімум. Паляпшэнне рэкламы сваёй прадукцыі або дзейнасці, а таксама атрымання з укладанняў пэўнага прыбытку. Не трэба скідваць з рахунка і дабрачынныя намеры багатых людзей, бо пратэстанская мараль, якая дамінуе ў самых развітых краінах свету, вучыць багатых людзей дапамагаць тым, хто ў гэтым мае патрэбу.

Але гэта для нашых чыноўнікаў з'яўляецца адкрыццём і на 18 годзе кіравання першага прэзідэнта. Нашы чыноўнікі ў сваёй саўковай сутнасці нясуць усе заганы адыйшоўшай савецкай сістэмы. Для нашых бюракратаў зусім слабазразумела паняцце ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва. Колькі разоў мне і маім сябрам даводзілася чуць ад дробных, сярэдніх і буйных чыноўнікаў: "Дайце грошы і мы зробім!" Гэта вельмі падобна на паводзіны жабракоў на цвінтары: "Дайце Хрыста радзі!". Толькі такія паводзіны не да твару дзяржаўным службоўцам "квітнеючай і моцнай" Беларусі. Такія паводзіны толькі адпужваюць патэнцыйных інвестараў, выстаўляючы службоўцаў і краіну ў ганебным выглядзе. І вынікі такіх паводзінаў чыноўнікаў і краіны відавочны.

У мінулым годзе ляснуліся дзяржаўныя планы прыцягнення прамых замежных інвестыцый, як у краіне, так і на Віцебшчыне. У краіне замест указаных кіраўніком 6,4 млрд. дал. прыцягнулі 1,4 млрд. дал.. Яшчэ горш сітуацыя на Віцебшчыне: планавалася 637 млн. дал., а прыцягнулі каля 20 млн. – 3,4%! Ад такога выканання заданне на 2012 год зменшылі да 143 млн. дал – крыху менш,чым у пяць разоў (!!!). Але за першы месяц прыцягнута толькі 4,5 млн., але старшыня вобласці загадвае прыцягнуць аж 200 млн. Чым выкліканы такі план, як неадэкватнымі амбіцыямі?

Між тым праблема ляжыць на паверхні. Кіраўніцтва Беларусі дыскрэдытавалі сябе ў вачах цывілізаванага свету ігнараваннем нормаў праваой дзяржавы і перш за ўсё адсутнасцю легітымнага кіраўніцтва, а таксама палітычнымі рэпрэсіямі і катаваннямі супраць апанентаў.

Уведзеныя санкцыі з боку ЗША і Еўрапейскага саюза маюць плён і афіцыйны Менск спрабуе зменшыць іх значэнне. Але атрымліваецца кепска. Па воле нашага кіраўніка і біятлонная каманда ўжо можа застацца без якасных патронаў на чэмпіянаце свету ў нямецкім Рупольдзінгу.

Жыццё ж не па правілах цывілізаваных краін, якое забуяніла ў нас пасля 1996 года, і давяло краіну да сёняшняга становішча. Таму і не стрымаўся вельмі багаты чалавек, калі заявіў, што за два тыдні не знайсці ідыётаў. Ды іх і за год будзе вельмі цяжка знайсці! Асабліва, калі не будуць выпушчаны палітвязні, калі не пачнецце вяртанне краіны да праваой дзяржавы праз дэмакратычныя выбары з допускам апанентаў у выбарчыя камісіі ўсіх узроўняў – пачынаючы ад ЦВК. І ўсё тут завязана на аднаго чалавека. Іншая справа, што яго на непраўавыя дзеі падзужваюць хлопцы з сілавых структур.

**Леанід Гаравы.**

МЯСЦОВАЕ РАЗВІЦЦЁ

## ДОЎГІ РУХ ПА ЛАБІРЫНТАХ АЙЧЫНАЙ БЮРАКРАТЫІ

**Не прайшло і пятнаццаці гадоў, як нарэшце пачаў набліжацца час, калі ў Гарадку здолее запрацаваць Цэнтр алімпійскай падрыхтоўкі па зімовых відаў спорту. Рэальна Цэнтр запрацуе тады, калі абласныя чыноўнікі здолеюць аператыўна вырашыць, як арганізацыйныя так і фінансавыя пытанні гатэля "Раўбічы". Менавіта гатэлю Пастановай Савета Міністраў шчэ ў 1997 годзе адводзілася роля базавага аб'екта гэтага Цэнтра.**

Але амаль пятнаццаці гадоў не хапіла Міністэрству спорта і турызма, каб стварыць у Гарадку Цэнтр алімпійскай падрыхтоўкі па зімовых відах спорту. З самага пачатку вышэйшай спартовай бюракратыяй было прынята памылковае рашэнне аб стварэнні ў Гарадку падраздзялення РСК "Раўбічы". Нашы высокія чыноўнікі на працягу некалькіх гадоў лічылі гатэль, як РУП "Гарадоцкі цэнтр спорту і турызму – Раўбічы" пры тым, што абяцаныя два спартовыя залы, стадыён існуюць і да гэтага часу толькі на паперы.

Кіраўніцтву гатэля давялося прайсці дзесяцігоддзе шляхам пакут праз ліквідацыю юрыдычнай самастойнасці, спынення працы гатэля, каб у рэшцерэшт змяніць уласніка гатэля. Колькі за гэты час сыйшло з краіны валюты на падрыхтоўку лыжнікаў і біятланістаў ўжо дакладна ведае мусіць толькі бугалтэрыя Міністэрства. Зараз магчыма сказаць, што крызіс мінулага году падштурхнуў спартыўных чыноўнікаў з Менска вырашыць пытанне ўласніка Цэнтра з другога заходу на ўзроўні кіраўніка краіны.

У апошні працоўны дзень мінулага году кіраўнікам краіны было падпісана распараджэнне аб передачы гатэля ў камунальную уласнасць абласнога ўпраўлення фізкультуры, спорту і турызму, а менавіта на баланс Віцебскага вучылішча алімпійскага рэзерву. Гэта першы крок да фінансавай самастойнасці ствараемага Цэнтру. Фактычна і зараз юрыдычна ніякага Цэнтру няма, бо не маецца ў гатэля спартовай базы. Гарадоцкай уладзе не хапіла дзесяцігоддзя, каб пабудаваць лыжэролерную трасу і біятлонны стадыён, што ў разы павялічылі б прывабнасць Гарадка па падрыхтоўцы спартсменаў зімовых відаў спорту. Таксама шчэ не вырашана пытанне аб набыцці ФАКа Гарадоцкай птушкафабрыкі, а таксама пытанне аплаты камунальных паслугаў, на якія ніяк не хапае грошаў за пражыванне ў гатэлі. Спартыўная грамадскасць памятае фотаздымкі з абрэзанай цеплатрасай да гатэля, калі быў выстаўлены судовы іск ад кіраўніцтва цэнтральнай кацельнай.

Ведаючы існуючую бюракратыю, толькі вялікія аптымісты могуць прагназаваць, што за летні сезон будзе вырашана пытанне з будаўніцтвам лыжаролернай трасы і біятлоннага стрэльбішча. Таксама з цяжкасцю верыцца, што да лістапада месяца будзе падрыхтавана інфраструктура для стварэння штучнай лыжнай трасы, бо патрэбны і фінансы, і сам праект, і яго выкананне.

Адно радуе, што у рэшце-рэшт гатэль стаў бліжэй да мясцовых уладаў на якіх ускладзена адказнасць на ператварэнне яго ў Цэнтр, які будзе эфектыўна працаваць на эканоміку Гарадоччыны. А дзеля гэтага ў Цэнтр трэба укласці дзесяткі мільярдаў інфляцыйных беларускіх рублёў, якіх зараз знайсці значна больш складана, чым было дзесяць гадоў назад.

**Л. Антонаў.**

ПРЫДАРОЖНЫ СЭРВІС

## "КРАТЭРЫ" НОВАЙ АЎТАЗАПРАЎКІ

**У непрывабным стане знаходзіцца дарожнае пакрыццё на новай аўтазаправачнай станцыі каля в. Хамякова. Першы месяц працы паказаў, што АЗС не адаптавалася да працы ў зімовых умовах.**

Шчыра кажучы, мне шчэ не даводзілася назіраць такое кепскае пакрыццё, як на АЗС каля в. Хамякова, на іншых аўтазапраўках краіны. МАЗС №5 "Белнафтахіма" размешчана на міжнароднай аўтатрасе С-Пецярбург – Адэса і мае вельмі добрае становішча, каб задавальняць патрэбы аўтааматараў у якасным паліве. Але завітаўшы на гэтую запраўку быў непрыемна здзіўлены якасцю абслугоўвання.

Па-першае, да аўтакалонак вядзе дарога, якая нагадвае дробныя кратэры Месяца. Відавочна, што калі ішлі студзенскія снегапады, то "Белнафтахім", а дакладнее яго Віцебскае аддзяленне, не патурбавалася пра своечасовую ўборку снегу. У выніку гэтай нядбайнасці праз некалькі сутак снег ператварыўся ў ледзяныя "кратэры" па якіх непрымна рухацца на аўтамашыне. Фактычна, калі прымяніць дзяржстандарты да дарожнага пакрыцця гэтай аўтазапраўкі, то яе трэба зачыніць пакуль не будуць ліквідаваны калдобіны, якія паўсюдна дасягаюць амаль дзесяці сантыметраў.

Па-другое, абслугоўваючаму персаналу АЗС таксама трэба вучыцца вывешванню таблічак аб няспраўным станцыі заправачных "пісталетаў". На першай калонцы яны не працавалі на запраўку двух відаў паліва, але прывязаныя таблічкі валяліся на зямле, што магчыма было заўважыць толькі пакінуўшы машыну.

Па-трэцяе, не пашкодзіла б таксама мэнеджэрам кампаніі тлумачыць аператарам, што ў першую чаргу павінны абслугоўвацца спажыўцы, а потым асобы, якія прывезлі тавар на АЗС, тым больш калі папярэдзілі, што пасля запраўкі патрэбен чэк.. Хаця магчыма, гэта не прапісана ў правілах "Белнафтахіма", калі кіраўніцтву кампаніі не важна, як ацэньваюць спажыўцы такі сэрвіс. Але што апетарары павінны даваць і невялікую рэшту спажыўцу, то дакладна вядома, што гэтая норма павінна у нашай краіне дзейнічаць. На цывілізаваным Захадзе спажывец сам вырашае ці трэба даваць на "чай" за аказанне якасных сэрвісных паслуг. А на Беларусі гэтая норма пра "чаявыя" пры агульным жабрацтве не дзейнічае наогул, тым больш пры неякасным сэрвісу.

Пры стварэнні такіх нязручнасцей не ўзнікае асаблівага жадання паўторна наведваць гэтую аўтазапраўку. Асабліва зімой 2012 году.

**Л. Гаравы.**

### Аб'ява

**Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны і рэгіёна зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info**

**Стваральнікі інфармацыйнага партала запрашаюць неабыякавых грамадзян да ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва. У рэдакцыі магчыма бясплатна атрымаць календарыкі на 2012 год, год Дракона.**

### "ГАСЦІНЕЦ" У ІНТЭРНЭЦЕ

**Наша газета "Гасцінец" стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org/ , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць не спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/hasciniec.html, што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання**

### АБ'ЯВА

- *Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.*
- *Рэдакцыя "Гасцінец" змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.*
- *Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас: Гарадок, вул. Галіцкага д.16 кв.2 ў кожны аўторак і чацвер з 16 да 18, або на тэлефоны газеты «Гасцінец».*

НАША САЛІДАРНАСЦЬ

# "ТОЛЬКІ ДУСТАМ НЕ СПРАБАВАЛІ"

**Леанід Гаравы атрымаў першы ліст ад Міколы Статкевіча, які пасля прэзідэнскай кампаніі 2010 года быў асуджаны да 6 гадоў зняволення. У студзені 2012 года Міколе Статкевічу прысудзілі адбыванне пакарання ў Магілёўскай турме.**

Леанід Гаравы, сацыял-дэмакрат, актывіст Руху "За свабоду!" на працягу апошняга часу накіраваў чатыры лісты да Міколы Статкевіча, які раней адбываў пакаранне ў Шклоўскай калоніі. Першы ліст не прайшоў цэнзуру ў кіраўніцтва Шклоўскай калоніі, якое без аргументаў знішчыла гэты ліст, а пра тры астатнія не вядома. Спробы дэмакратычнага актывісты высветліць падставы для знішчэння ліста прывялі да адпісак, якія даслаў начальнік калоніі Сяргей Ярмаліцкі. Дарэчы, начальнік калоніі разам з Еўрапейскага Звязу пазбаўлены права на наведванне краін еўрапейскай супольнасці у сувязі з жорсткім абыходжаннем з палітычнымі вязнямі.

У дасланым лісце Мікола Статкевіч апавядае аб умовах утрымання ў калоніі і турме, якія для яго стварыла кіраўніцтва шклоўскай калоніі: "асобая" камера ПКТ – з мокрымі сценамі, без прытоку свежага паветра і ў паўзмроку. Кандыдат у прэзідэнты выбарчай кампаніі 2010 года адзначае, што апошнія два месяцы яго вельмі моцна "круцілі" наконт "папрасіцца" і звязвае гэта з тым, што у другога кандыдата – Андрэя Саннікава гэты подпіс пад прашэннем "выдралі". Статкевіч адзначае, што і з яго таксама "выціскалі" гэтае пакаянне і з гумарам адзначае: "Толькі дустам не спрабавалі".

Зараз Мікола Статкевіч знаходзіцца ў магілёўскай турме, дзе ўмовы утрымання складаней, чым у калоніі, бо увесь час знаходзішся ў камеры і толькі на адну гадзіну выводзяць на прагулку канвоем з сабакамі. Але ў адрозненні ад прэсінгу апошняга часу зараз магчыма чытаць і пісаць. Таксама Мікола Статкевіч кожны дзень займаецца фізічнымі практыкаваннямі, для якіх яму дастаткова 1-2 кв. м камеры і свайго цела, як спартовага снараду. Гэта дазваляе супрацьстаяць спробам падарваць здароўе, а таксама падтрымлівацьпсіхалагічную стабільнасць.

Напрыканцы ліста палітычны вязень перадае прывітанне ўсім агульным знаёмым, а таксама вялікае прывітанне Зміцеру Дашкевічу і параду: хай "качаецца". Кожны грамадзянін можа падтрымаць палітычных вязняў лістамі падтрымкі. Да Мікалая Віктаравіча Статкевіча лісты магчыма слаць на адрас: 212011, г. Магілёў, вул. Крупскай 99-а, СТ-4.

**Л. Антонаў.**

СПАРТЫЎНАЕ ЖЫЦЦЁ

# ПРАБЛЕМЫ СА СТРАЛЬБОЙ СПЫНІЛІ ПРАГРЭС

**На двух апошніх лютаўскіх этапах Кубка свету па біятлону Настасся Дубарэзава спынілі свой прагрэс, якіназіраўся на пачатку новага году. На стартах у нарвежскім Хальменкольне і фінскім Канцілахці ў Дубарэзавай не атрымалася трапіць у дваццатку мацнейшых біятланістак свету.**

Спаборніцтва на Кубак свету па біятлону выйшлі на фінішную прамую і ўзялі перапынак да чэмпіянату свету ў нямецкім Рупольдзінгу, які стартуе 1 сакавіка смешанай эстафетай. Наша зямлячка Настасся Дубарэзава займае ў беларускай камандзе другую пазіцыю пасля Дар'і Домрачавай, якая дасягнула выдатной формы і стабільна падымаецца на п'едэстал у жаночых біятлонных гонках. Пасля выдатных стартаў у нямецкім Аберхофе і ў чэшскім Нова-Мясце, дзе Настасся уваходзіла ў дзесятку мацнейшых у спрынтарскіх гонках, у яе сапсавалася стральба.

На пачатку лютага адбыўся сёмы этап Кубка свету ў нарвежскім Хальменкольне, дзе Дубарэзавай не атрымалася ўвайсці ў другую дзесятку біятланістак, бо было шмат промахаў на агнявых рубяжах. У спрынце Настассяй было допушчана тры промахі і на фінішы было толькі 34-е месца. У гонцы праследавання яна ўжо 6 разоў не трапіла ў мішэнь і апусцілася на 43 месца, але выйшла на гонку з масавага старту і пры чатырох промахах стала 26-й.

Восьмы этапа Кубка свету прайшоў у фінскім Канцілахці пры крытычных марозах, якія вымусілі гаспадароў спачатку правесці змешаную эстафету, а потым спрынт і пасьют. У эстафеце Дубарэзава стартавала з Надзеяй Скардзіна, бо Домрачава вырашыла паберагчы сілы перад індывідуальнымі гонкамі. У змешанай эстафеце наша каманда заняла прыстойнай восьмае месца, а Настасся не пакінула не разбітых талерак, праўда выкарыстала тры дадатковых патрона. Але на наступны дзень у спрынце зноў, як і на папярэднім этапе не закрыла тры мішэні і апынулася на 40 месцы. А ў гонцы праследавання допусціла шэсць промахаў і апынулася на 34 месцы.

У агульным заліку Кубка свету наша Дар'я Домрачава з 891 ачком паспяхова праследуе знакамітую Магдалену Нойнер, якая мае ужо 930 ачкоў і апярэджае Кайсу Макарайнене з яе 793 ачкамі. У Настассі Дубарэзавай за фінскі этап дадалося толькі 8 ачкоў і зараз яна на 28 месцы са 199 ачкамі, апярэджаючы чэшку Вераніку Віткаву, францужанку Сафі Байлі і расіянку Екацярыну Юрлаву. Наша Надзея Скардзіна на 40-м месцы, а Людміла Калінчык на 42-м. Табліца агульнага заліку ў жанчын тут: services.biathlonresults.com/Cups.aspx

**Л. Антонаў.**

# ПОСПЕХ НА МІЖНАРОДНЫХ СПАБОРНІЦТВАХ

Беларускія барцы грэка-рымскага стылю 28-29 студзеня прынялі ўдзел у двух міжнародных турнірах у Турцыі і Даніі. Гарадакчанін Джамал Агамаў паспяхова выступіў на міжнародных спаборніцтвах Thor Masters — 2012 у Даніі, дзе заваяваў бронзавы медаль.

У гэтым міжнародным турніры удзельнічалі прадстаўнікі сямі краін і 15 спартовых клубаў. У вагавай катэгорыі да 55 кг спаборніцтвы адбыліся па кругавой сістэме. Пераканаўчую перавагу меў алімпійскі чэмпіён расіянін Назыр Манкіеў, які праз тушэ пераможны сваіх сапернікаў і толькі ў барацьбе з нарвежцам Андэрсам Ронінгенам у яго была перамога па ачках у трох раундах.

Наш Джамал Агамаў перамог праз тушэ прадстаўніка клуба Rolf Андрэаса Мадсена, а таксама шведа Даніэлса Тэркілдсэна і саступіў па ачках нарвежцу Андэрсу Ронінгену. Гэта аказалася дастаткова для трэцяга месца, а другое месца дасталася нарвежцу. Акрамя Агамава ў спаборніцтвах удзельнічала яшчэ тры беларуса, але лепшае месца ў іх было толькі шостае.

На больш прадстаўнічым міжнародным турніры у Турцыі удзельнічала беларуская каманда з дзесяці барцоў, якія заваявалі тры бронзавыя медалі. Прызёрамі спаборніцтваў сталі Міхаіл Сямёнаў у вазе да 66 кг, Давід Гамзатаў – да 84 кг, а таксама Язэп Чугашвілі – да 120 кг. У агульным заліку Беларусь заняла шостае месца, а ўсяго ў турніры удзельнічала 133 барца з 13 краін.

Пакуль у беларускіх барцоў грэка-рымскага стылю тры ліцэнзіі на алімпіяду ў Лондане, якія яны атрымалі пасля чэмпіянату свету 2011 года ў Труцыі. Ліцэнзіі маюць Алім Селімаў (84 кг), Эльбек Тажыеў (55 кг), а таксама Цімафей Дзейнічэнка (96 кг).

**Л. Антонаў.**

ПРАБЛЕМЫ КУЛЬТУРЫ

# Раёнка ў чарговы раз заблытвае чытачоў

**Гарадоцкая раённая газета "Гарадоцкі веснік" на працягу апошняга году пастаянна памыляецца ў напісанні прозвішча самага знакамітага жыхара Гарадоччыны -- аўтара славутай паэмы "Тарас на Парнасе" Канстанціна Вераніцына. Гэта адбылося і ў суботнім нумары газеты за 11 лютага ў нататцы Ганны Жнівень "Горячие точки сердец".**

Аматары роднага слова ведаюць, што другім "хросным" бацькам Канстанціна Вераніцына з'яўляецца выдатны беларускі літаратуразнаўца Генадзь Васільевіч Кісялёў. Менавіта Генадзь Кісялёў 13 лістапада 1973 года ў чытальнай зале Цэнтральнага гістарычнага архіва ў Менску у дакументах Горы-Горацкага інстытута знайшоў запіс аб студэнце чацвёртага курса 1857-1858 навучальных гадоў Канстанціне Вераніцыне. У справе аб нашым земляку напісана: "Вереницын Константин. Родом из Витебской губернии. Родился 1 июня 1834 года. 24-х лет. Православного исповедования. Из мещан. Содержится за счет Вольного экономического общества. Поведения отличного. Успехов отличных. В институте второй год. Ранее обучался в С.-Петербургской медико-хирургической академии».

Аб выніках сваіх шматгадовых гісторыка-літаратурных пошукаў аўтараў ананімных на той час паэм "Энэіда навыварат", "Тарас на Парнасе" Генадзь Кісялёў напісаў захапляльную дылогію "Разыскивается классик…», якая была выдадзена ў 1989 годзе. У гэтай кнізе, напісанай у выглядзе захапляльнага дэтэктыва, на старонцы 367 і прыводзіцца цытата з архіўнай справы нашага знакамітага земляка. Менавіта гэта кніга ляжыць у аснове тарасазнаўства і яна потым натхняла вядомых беларускіх літаратуразнаўцаў Віталя Скалабана, Язэпа Янушкевіча на пошукі новых дакументаў, фактаў, якія датычацца паэмы "Тарас на Парнасе". Гэты класічны твор тарасазнаўства садзейнічаў і правядзенню ў Гарадоцкім краязнаўчым музеі ў 1997 годзе першых літаратурна-краязнаўчых чытанняў: "Паэма "Тарас на Парнасе": здабыткі і праблемы". Правядзенне чытанняў паспрыяла таму, што ў 2001 годзе каля краязнаўчага музея і ў Астраўлянах былі ўсталяваны мемарыяльныя знакі прысвечаныя Канстанціну Вераніцыну і славутай беларускай паэме.

Сёння ж супрацоўнікі рэдакцыі памыляюцца, калі называюць знакамітага земляка па-расейску, як "Вероницын". Агульнавядома, што памылка ў прозвішчы на адну літару робіць яго зусім іншым. Асабліва, калі гэта датычыцца класікаў. Гэта робіць аўтараў такіх памылак недасведчанымі асобамі ў вачах чытачоў. І шкада, што мой мінулагодні зварот да рэдактара наконт напісання па-расейску прозвішча Вераніцына яшчэ не даў выніку. Але спадзяюся, што зараз хопіць культуры выбачыцца перад чытачамі за няправільнае напісанне прозвішча знакамітага аўтара. Як рэдакцыя, дарэчы, зрабіла ў мінулым месяцы, калі няправільна напісала прозвішча нашага земляка Віктара Камоцкага, галоўнага трэнера зборнай Беларусі па лыжах.

**Леанід Гаравы.**

САЦЫЯЛЬНЫ РАКУРС

# ГАРОТНЫ СТАН РАБОТНІКАЎ КУЛЬТУРЫ І АДУКАЦЫІ

**Справаздача аддзела статыстыкі Гарадоцкага раёна аб заробках засведчыла, што работнікі культуры і адукацыі сталі належыць да самых нізкаапалчваемых катэгорый насельніцтва Гарадочыны. Дамінаваць жа па заробках сталі работнікі фінансавых установ, якія у маштабах краіны і спарадзілі фінансавы крызіс.**

Сярэдняя намінальна налічаная зарплата ў Гарадоцкім раёне за снежань 2011 года склала 2092,1 тыс. рубля. Гэтая зарплата значна адстае ад сярэдняй зарплаты па Беларусі за снежань, якая дасягнула 2877,7 тыс. руб, а таксама ад сярэдняга заробка па Віцебскай вобласці. Але сярод розных катэгорый работнікаў лічбы заробкаў адрозніваюцца істотна, як істотна адрозніваецца і дынаміка росту гэтых заробкаў у параўнанні з сярэднемесячнымі за увесь 2011 год.

Перш за ўсё сваім заробкам у снежні могуць парадавацца работнікі фінансавых установ, дзе сярэдні заробак амаль дасягнуў пяці мільёнаў(!!!) рублёў з улікам абслугоўваючага персаналу – 4943,2 тыс. руб. Гэта больш чым у два разы вышэй сярэдніх заробкаў у прамысловасці, работнікі якой размясціліся на другім месцы з заробкамі 2428,8 тыс. рублёў. Дадзеныя лічбы тым больш уражваюць, калі ўлічыць, што сярэднемесячны заробак за мінулы год у прамысловасці склаў 1703,3 тыс. руб., а ў фінансавых структурах – 2341,7 тыс. руб.

Здалі свае раней высокія пазіцыі работнікі органаў дзяржаўнага кіравання. Калі сярэднемесячны заробак у іх склаў 1937,4 тыс. руб. – другое месца, то ў апошні месяц мінулага года толькі 2289,8 тыс. руб. – чацвёртае месца. На трэццяе месца па снежаньскіх заробках выйшлі будаўнікі, якія у сярэднім атрымалі 2346,0 тыс. руб. Массавы сыход будаўнікоў на заробкі ў Расію вымусіў улады падняць ім заробкі перад новым годам.

Унізе прыбыткаў апынуліся работнікі культуры і адукацыі, якіх улады нічым не парадавалі перад новым годам. Сярэдні заробак у сістэме адукацыі – 1764,1 тыс. рублёў, а ў сферы культуры – 1677,0 тыс. руб.. Атрымалася, што упершыню работнікі сельскай гаспадаркі сасвакі 1812,8 тыс. руб. перад новым годам абыйшлі тых, хто нясе светлае, чыстае, высокае ў масы. Таксама звяртае на сябе ўвагу тое, што упершыню заробкі фінансістаў аж у 2,5-3 разы сталі вышэй заробкаў у сферы культуры і адукацыі.

Самае ж сумнае, што ні работнікі культуры, ні адукацыі ніякім чынам не здольны пратэставаць наконт гэтай дыскрымінацыі ў заробках. Фармальныя дзяржаўныя прафсаюзы імкнуцца захаваць сацыяльны спакой, перакладаючы цяжар крызісу на работнікаў сацыяльнай сферы. Між тым грамадзянам дзеля адстойвання сваіх правоў на годныя заробкі пара ужо аб'ядноўвацца ў новыя прафсаюзы. Як кажуць у народзе, выратаванне тапельцаў – справа рук саміх тапельцаў.

**Л. Гаравы.**

ПОГЛЯД ЛІДЭРА

# ПРАШЭННЕ ЛУКАШЭНКУ – ЯК ЛІСТ Д'ЯБЛУ

ЗЯНОН ПАЗЬНЯК: «У ЯКІЯ ЯШЧЭ МАЗГІ МОГУЦЬ ПРЫЙСЦІ ТАКІЯ ПАВОДЗІНЫ — КІНУЦЬ ЛЮДЗЕЙ У КАМЕРУ І КАТАВАЦЬ — «ПІШЫ МНЕ ПРАШЭННЕ, КАБ Я ЦЯБЕ ВЫЗВАЛІЎ!».

«Некаторыя палітвязьні не вытрымалі ціску і напісалі прашэнне аб памілаванні, і ў беларускім грамадстве ідзе дыскусія, ці гэта было слушнае рашэнне? Якой меркай людзі на свабодзе могуць ацэньваць гэтае рашэнне? Якое Ваша стаўленне, і які будзе лёс палітвязняў?» — запыталася ў нацыянальнага лідара радыё «Свабода».

Зянон Пазняк адказаў так. «Тут ёсць два аспекты. Адзін — палітычны аспект, гэта вельмі цяжкі аспект, бо ён поўны абсурду. Чалавека кінулі ў турму, з яго здзекуюцца і катуюць, каб ён напісаў прашэнне аб вызваленні. Поўны абсурд! Але гэта абсурд мае пад сабой шызафрэнічную логіку. Ідзе барацьба за душу чалавека, каб потым самаісна распараджацца яго ганай душой. Калі чалавек падпіша такое прашэнне, значыцца, кат мае пэўнае алібі — ён, як кажуць, свабодна можа прадаваць гэты тавар, у залежнасці ад кан'юнктуры.

У якія яшчэ мазгі могуць прыйсці такія паводзіны — кінуць людзей у камеру і пачынаць іх катаваць — «пішы мне прашэнне, каб я цябе вызваліў!». Дык вось, у гэтым сэнсе, у палітычным, трэба разумець, што падпісанне такога прашэння — гэта тое самае, што падпісаць ліст д'яблу. Гэта трэба разумець, якія з гэтага будуць вынікі і высновы.

Другі аспект вельмі істотны. Што людзей, якіх катуюць у турме, каб яны пісалі прашэнне і гэтак далей, — гэты абсурд датычыцца толькі іх. Яны не павінны, як кажуць, гуляць у напарстак з катам.

«Трэба табе прашэнне — калі ласка, бяры сваё прашэнне!». Бо ўсе бачаць, якім чынам выбіваюць гэтыя прашэнні. Яны не маюць ніякай віны тут.

Каб ад іх патрабавалі «закласці» таварыша, нейкага выдаць, нейкага агаварыць — гэта іншая справа, тады трэба, як кажуць, стаяць моцна. Тут зусім іншае, тут цябе прымушаюць гуляць у напарстак. Не трэба з катам гуляць у напарстак. І таму, тое, што гэтыя людзі гэта напісалі, калі ён выбіваў іхняе прашэнне — гэта якраз абсалютна рацыянальны і разумны ход.

Іх ніхто іх за гэта не асудзіць. Яны нікога не прадалі, нікога не выдалі, нікому дрэнна не зрабілі, акрамя як сабе. Ды і сабе ў дадзеным выпадку нічога дрэннага яны не зрабілі, акрамя таго, што вось падпісалі гэты ліст д'яблу.

Таму што гэтым справа не скончыцца, ён будзе гандляваць, будзе гэта выкарыстоўваць, працягнецца далейшы ціск. Гэта трэба заўсёды памятаць. І грамадскасць, якая назірае за гэтым, павінна разумець такія рэчы. Ведаеце што, я ўпершыню з такім спаткаўся, каб як кот з мышкам кат гуляў з людзьмі.

Укінуць у камеру, катаваць — «пішы мне прашэнне!». Вось якая логіка гэтага абсурду і маразму. Трэба з гэтым разабрацца і грамадству, і, я думаю, самі вязні з гэтым разбяруцца.

Гэта не выключае, безумоўна, вельмі небяспечнай сітуацыі для іх у сувязі з гэтым падпісаннем, але ў маральным сэнсе гэта абсалютна прымальна, пісаць такія цыдулкі, каб не гуляць зь ім у брудныя гульні.

**Паводле радыё «Свабода».**

ПАДАЙЦЕ!

# МІНСК ВЫСТАВІЎ МАСКВЕ НОВЫ РАХУНАК ЗА ГАТОЎНАСЦЬ «ЛЕГЧЫ ПАД ТАНКІ НАТА»

БЕЛАРУСКАЕ КІРАЎНІЦТВА НА ПАДСТАВЕ ПАВЫШЭННЯ ДАБРАБЫТУ ВАЕННЫХ ХОЧА ПАВЯЛІЧЫЦЬ ЎКЛАД РАСІІ Ў ФІНАНСАВАННЕ АБАРОННЫХ ВЫДАТКАЎ КРАІНЫ. НЕКАЛЬКІ НЯЗГРАБНЫЯ ЗАЯВЫ НА ГЭТЫ КОНТ ВЫКЛІКАЛІ РЭЗКУЮ КРЫТЫКУ З ВУСНАЎ ЎНУТРАНЫХ АПАНЕНТАЎ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ. АДБІВАЮЧЫСЯ АД АББІНАВАЧВАННЯЎ У «ЗДРАДЗЕ РАДЗІМЫ», УЛАДАМ ПРЫЙШЛОСЯ УДАКЛАДНЯЦЬ СВАЮ ПАЗІЦЫЮ.

6 лютага на сустрэчы з кіраўніком Савета бяспекі Леанідам Мальцавым і міністрам абароны Юрыем Жадобіным Аляксандр Лукашэнка зрабіў заяву, з якога вынікае, што беларускім ваенным неабходна падымаць зарплату, арыентуючыся на расійскі ўзровень.

Паводле слоў прэзідэнта, беларуская і расійская арміі сёння практычна вырашаюць агульныя задачы (і ў гэтым плане дэ-факта з'яўляюцца адзінай войскам). Аднак памер грашовага забеспячэння ваенных Беларусі і Расіі адрозніваецца. Такое становішча павінна быць зменена, падкрэсліў афіцыйны лідэр.

Адзначым, што па дадзеных, апублікаваных у прэсе, з 1 студзеня 2012 года аплата працы расійскіх вайскоўцаў павялічана ў 2,5-3 разы. Пенсіі адстаўнікоў выраслі ў 1,5-2 разы. У выніку расейскія ваенныя цяпер зарабляюць значна больш, чым беларускія калегі.

Аляксандр Лукашэнка паведаміў, што накіраваў Дзмітрыю Мядзведзеву ліст «аб неабходнасці пошукі дадатковых сродкаў для беларускіх вайскоўцаў за кошт розных напрамкаў супрацоўніцтва Беларусі і Расеі». Са словаў беларускага прэзідэнта вынікае, што, згодна з папярэдняй дамоўленасці, Мядзведзеў паабяцаў дапамагчы.

Між тым, як вынікае з паведамленняў СМІ, некаторыя палітычныя апаненты палічылі гэтую просьбу прэзідэнта і галоўнакамандуючага ўзброенымі сіламі Беларусі «абразай беларускіх вайскоўцаў».

На думку крытыкаў, удзел расійскага бюджэту ў фінансаванні беларускай арміі з'яўляецца для краіны яшчэ большай небяспекай, чым пераход на расійскі рубель, бомбай запаволенага дзеяння, закладваецца пад незалежнасць і нацыянальную бяспеку. Лагічным вынікам такой палітыкі стане адпраўка па ўказцы Расіі беларускіх вайскоўцаў у гарачыя кропкі на постсавецкай прасторы, мяркуюць ўнутраныя апаненты Лукашэнкі.

Уяўляецца, аднак, што падобнага роду ацэнкі носяць хутчэй эмацыйны характар. У заканадаўстве Беларусі няма юрыдычных падстаў ні для найму дзеючых беларускіх ваенных якім-небудзь замежнай дзяржавай, ні для выкарыстання іх у баявых дзеяннях за межамі дзяржавы. Нават удзел у міратворчых місіях пад эгідай ААН - справа асабліва добраахвотнае, рашэнне па кожнай кандыдатуры прымаецца ў індывідуальным парадку.

Сама ж па сабе чарговая просьба Аляксандра Лукашэнкі аб матэрыяльнай дапамогі, звернутая да ўсходняй суседцы, не з'яўляецца чымсьці экстраардынарным. Такога роду звароту ўжо даўно з'яўляюцца неад'емнай часткай адносін Мінска і Масквы, якія будуюцца па прынцыпе: абарона ваенна-стратэгічных і геапалітычных інтарэсаў Расеі ў абмен на эканамічныя прэферэнцыі для беларускага рэжыму.

Сутнасць матывацыі звычайна зводзіцца да таго, што без падтрымкі Расеі Беларусі складана і цяжка выконваць свае функцыі па абароне заходніх рубяжоў Саюзнай дзяржавы.

Праўда, раней у большасці выпадкаў размова ішла аб дапамозе хоць бы ўзбраеннем. І трэба адзначыць, што Масква не адмаўляла. Дастаткова ўспомніць аб пастаўцы некалькі гадоў таму зенітных ракетных комплексаў (ЗРК) С-300 па значна больш нізкіх, чым на сусветным рынку, цэнах. Або аб зусім нядаўнім набыцці мабільных ЗРК «Тор-2М» па ўнутрырасейскіх расцэнках.

Але гэтым справа не абмяжоўваецца. Расейцы бяруць на сябе ільвіную долю выдаткаў на сумесныя ваенныя вучэнні, пастаўляюць на льготных умовах запасныя часткі, расходныя, гаруча-змазачныя матэрыялы і г.д.

І хоць Аляксандр Лукашэнка перыядычна наракае на скнарлівасьці саюзніка, эканомія сродкаў ваеннага бюджэту за кошт падобных льгот атрымліваецца для Мінска досыць значнай, з'яўляецца магчымасць выдаткаваць вызваленыя грошы на іншыя патрэбы сваіх вайскоўцаў. У тым ліку і на іх грашовае забеспячэнне.

Як уяўляецца, і ў свежым выпадку маецца на ўвазе аналагічная дапамогу. Заўважце: у нашумелай заяве беларускага прэзідэнта гаворыцца аб пошуку сродкаў «за кошт розных напрамкаў супрацоўніцтва Беларусі і Расеі». Проста цяпер беларускаму кіраўніцтву палітычна выгадна падкрэсліць, што яно дбае не аб стралкоўчых жалезках, а менавіта аб павышэнні дабрабыту вайскоўцаў. Прасцей кажучы, гэта рэверанс, накіраваны на задобранне сілавікоў.

Бо людзі ў вайсковых пагонах, як і ўсе бюджэтнікі, панеслі значны матэрыяльны ўрон у выніку дэвальвацыі нацыянальнай валюты, гіперінфляцыі. Што наўрад ці станоўча адбілася на настроях думак вайскоўцаў. А пытанні лаяльнасці арміі і сілавых ведамстваў не можа ігнараваць ніякая, нават калі заўгодна шчасная ўлады.

Да таго ж паражальнае адставанне ў даходах можа падштурхнуць немалы лік афіцэраў беларускай арміі і кантрактнікаў да пакідання яе шэрагаў і пераходу пад расейскія сцягі (нават нягледзячы на рызыку апынуцца ў гарачых кропках). Але ж прафесійная падрыхтоўка гэтых людзей каштавала беларускім падаткаплацельшчыкам велізарных сродкаў.

Падобна, менавіта гэтымі меркаваннямі і кіраваўся Аляксандр Лукашэнка, згадаўшы аб згодзе прэзідэнта Расіі адгукнуцца на яго просьбу аказаць дапамогу беларускім вайскоўцам. Вось толькі форма гэтай заявы апынулася не вельмі ўдалай, чым адразу і скарысталіся палітычныя праціўнікі.

У выніку праз пару дзён акцэнты давялося расстаўляць міністру абароны Жадобіну. Паводле яго версіі, «СМІ растыражавалі насельніцтву некарэктную інфармацыю» адносна павышэння грашовага забеспячэння вайскоўцаў.

«Магло скласціся ўражанне, - адзначыў генерал Жадобін, - што на той сустрэчы размова ішла аб неабходнасці пошукі для беларускіх вайскоўцаў дадатковых сродкаў з бюджэту Расеі. На самай справе падкрэслівалася: паспяховае ваеннае супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі можа стаць адным з аргументаў на атрыманні прэферэнцый ў эканамічных пытаннях, напрыклад, у дачыненні да пошлін на нафту або газ, якія дазволяць папоўніць бюджэт краіны і даць магчымасць павысіць грашовае ўтрыманне нашых вайскоўцаў ».

Такім чынам, наша здагадка пацвярджаецца. Мінск зноў выкарыстоўвае выпрабаваных формулу: Маскве прапанавана стымуляваць эканамічнымі прэферэнцыямі міфалагізаваную гатоўнасць беларусаў «легчы пад танкі НАТА».

**Аляксандр Алесін.**

ДА 800 ДАЛЯРАЎ

# ГРАНДЫЁЗНЫЯ ПЛАНЫ СНАПКОВА

У БЕЛАРУСІ ДА 2015 ГОДА З ТРАДЫЦЫЙНЫХ ГАЛІН ЭКАНОМІКІ БУДУЦЬ ЗВОЛЬНЕНЫЯ КАЛЯ 280 ТЫС. РАБОТНІКАЎ. ПРА ГЭТА ПАВЕДАМІЎ 7 ЛЮТАГА МІНІСТР ЭКАНОМІКІ МІКАЛАЙ СНАПКОЎ. ПАВОДЛЕ ЯГО ЗАПЭЎНЕННЯЎ, ВЫЗВАЛЕНЫЯ РАБОТНІКІ БУДУЦЬ ПЕРАНАКІРАВАНЫЯ НА НОВЫЯ ВЫТВОРЧАСЦІ, ЯКІЯ ЯШЧЭ ТОЛЬКІ ПЛАНУЕЦЦА СТВАРЫЦЬ. ГЭТА ПАВІННА ПРЫВЕСЦІ ДА ДАСЯГНЕННЯ МІНІМАЛЬНАЙ ЗАРПЛАТЫ Ў 800 ДАЛЯРАЎ.

Такія планы ўладаў абумоўлены незбалансаванасцю росту прадукцыйнасці працы і росту заработнай платы, што ўяўляе пэўныя рызыкі, растлумачыў кіраўнік мінэканомікі на пасяджэнні Савета міністраў.

Работнікаў плануецца перанакіраваць на высокапрадукцыйныя працоўныя месцы, што дазволіць пазбегнуць адтоку кваліфікаваных кадраў з-за нізкага ўзроўню заробкаў у Беларусі, перадае БелТА.

## Снапкоў абяцае заробкі да 800 даляраў

«Дабаўленая вартасць, якую мы дасягнем ў 2015 годзе, пры неабходнасці дасягнення мінімальнай зарплаты ў 800 даляраў - адпаведным чынам на гэтую дабаўленую вартасць павінна быць колькасць занятых. Астатняя колькасць вызваляецца. Адпаведна, людзі будуць занятыя на новых высокаэфектыўных вытворчасцях», - заявіў Мікалай Снапкоў.

Як адзначыў міністр, на традыцыйных вытворчасцях зарплаты вырастуць за кошт зніжэння колькасці работнікаў, а на новых яны будуць расці за кошт дасягнення высокага ўзроўню дабаўленай вартасці.

Для стварэння новых высокапрадукцыйных вытворчасцяў, па словах кіраўніка мінэканомікі, да 2015 года неабходна прыцягнуць каля 38 млрд даляраў інвестыцый, з якіх 23 млрд пойдуць на набыццё машын і абсталявання.

«Прадукцыйнасць - асноўная задача на наступныя чатыры гады. Амаль дзве трацiны даследаванняў па эканоміцы разглядаюць гэтае пытанне. Як матываваць, забабіць, прымусіць чалавека на высокатэхналагічным абсталяванні павялічыць сваю прадукцыйнасць. У нас у краіне гэтай праблемы пакуль няма. У нас ёсць дысцыплінаваны, нерастрачаны чалавечы рэсурс, і наша задача - вызваліць гэты ўнутраны рэзерв», - падкрэсліў Мікалай Снапкоў.

Як раней перадаваў Тэлеграф, міністр эканомікі Беларусі 27 снежня 2011 года прадставіў праект Стратэгіі прыцягнення прамых замежных інвестыцый на перыяд да 2015 года. Паводле яго слоў, у аснову пакладзены «якасны аспект прыцягнення інвестыцый, якія забяспечваюць ўвоз у рэспубліку новых і высокіх тэхналогій, а інавацыйная мадэль развіцця эканомікі нашай краіны павінна стаць дамінуючай».



ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# МАСТАЦКІ СВІСТ

УВЯДЗЕННЕ ПАСАДЫ АМБУДСМЭНА — РЭДКАЯ НАВІНА З РАЗРАДУ РАЗУМНЫХ. АЛЕ ЎСЕ РАГОЧУЦЬ. НА СУСТРЭЧЫ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ СА СТАРШЫНЁЙ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА ПЯТРОМ МІКЛАШЭВІЧАМ БЫЛО ЗАЯЎЛЕНА АБ МАГЧЫМАСЦІ ЎВЯДЗЕННЯ Ў БЕЛАРУСІ ІНСТЫТУТА АМБУДСМЕНА — УПАЎНАВАЖАНАГА ПА ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА.

Па законах жанру, ужо даволі вядомага Дзіму Паўлічэнку ў амбудсмены сасваталі. Галоўнае, каб ён назву новай пасады выгаварыў — і тады па ўсіх параметрах падыдзе: юрыст, ад зямлі, з вялікім і багатым досведам…

Або вось яшчэ кандыдат — вялікі абаронца правоў чалавека з дапамогай тэлебачання Яўген Новікаў. Ужо як ён стараецца, як выкрывае! Наслухаўшыся яго пранікліых прамоваў пра вар'яцкі рост цэнаў у Еўропе, я амаль бегла слаць пасылкі салідарнасці ў Брусэль, прыгнечанаму пралетарыяту. Так, на шчасце, своечасова ў рэдакцыі добры чалавек аб'явіўся, наш былы зямляк, цяпер — эмігрант. Расказаў, што і праўда хвалюецца Бельгія, наракае, незадаволеная — у сярэднім за год аж на 20 цэнтаў цэны павысіліся.

Увогуле, з талентамі мастацкага свісту, якімі валодаюць такія навікавы, з нас хутка будуць выбіваць слязу па няшчасных бедуінах, якім пяску ў пустыні не хапае. Затое тым, што ў сябе, у Беларусі, ужо стала небяспечна «з крыніцы вады напіцца» — яны не занепакояцца.

Таму калі вярнуцца да праўды жыцця, то саму па сабе ідэю ўвесці ў Беларусі пасаду амбудсмена — упаўнаважанага па правах чалавека — можна толькі вітаць. Праблема гэтая не проста наспелая, а ўжо пераспелая. Праўда, вырашыць яе ўвядзеннем пасады ўпаўнаважанага можна толькі пры ўмове, што амбудсменам стане чалавек з адпаведнай рэпутацыяй. Алесь Бяляцкі, напрыклад. Ці Гары Паганяйла. Ці Святлана Алексіевіч…

Чалавек, які будзе думаць не пра дзяржаўныя інтарэсы ў іх цяперашнім разуменні — каго пасадзіць, каго запалохаць, што забараніць, задушыць, заціснуць і як апраўдаць гэтыя дзеянні…

А пра абарону людзей ад такіх замахаў дзяржавы. Чалавек, які не будзе ў носе калупацца і паперкі перакладаць, калі ў турме здзекуюцца з палітвязняў, а наадварот, пачне дняваць і начаваць у гэтай турме, біць ва ўсе званы, будзіць прэзідэнта сярод ночы з патрабаваннем спыніць беззаконне.

Ніякі іншы амбудсмен Беларусі не патрэбны. Структур, пасад, саветаў самых розных псеўдаабаронцаў у нас і без таго дастаткова.

Вось, напрыклад, дэпутаты — знямелы голас народа. Цэлую камісію па правах чалавека ў Палаце прадстаўнікоў стварылі. І што? Гэтыя дзеячы адабралі ў людзей нават тыя правы, якія былі. Напрыклад, права выйсці на вуліцу і хоць бы дружна запляскаць чарговому мудраму рашэнню ўласнай улады. У той жа час калі такіх абаронцаў паслухаць — дык яны дзень і ноч працуюць, нашы з вамі свабоды абараняюць.

І не адны яны такія. Імітацыя бурнай дзейнасці па рашэнні важных праблем у Беларусі ператварылася ў нейкі дурны спектакль. Мастацкі свіст зрабіўся элементам палітыкі. Усе страшна заклапочаныя, усе пры справе, нешта ствараюць, над чымсьці галаву ламаюць, нешта прапануюць, абмяркоўваюць, раяцца… Толькі атрымліваецца яшчэ горш. Пры гэтым усім зразумела, што ёсць абсалютна простыя і рэальна эфектыўныя рашэнні — было б жаданне нешта насамрэч мяняць.

Да прыкладу, 17 гадоў улада беспаспяхова змагаецца з карупцыяй, але чамусьці гэтыя кампаніі часта перараджаюцца ў банальнае звядзенне рахункаў і анархію праваахоўных органаў. А для пачатку ўсяго і трэба — прызначыць генпракурорам дасведчанага юрыста не са складу цяперашняй збітай кодлы, дзе ўсе даўно адзін з адным павязаныя. Напрыклад, былога суддзю Канстытуцыйнага суда Міхаіла Пастухова або яго калегу, Заслужанага юрыста Беларусі Валерыя Фадзеева. І мы здзівімся, як хутка яны разбяруцца, што там хто дзеліць, каго прыкрывае, каго падстаўляе, каго адмазвае… А як узрасце ў гэтым выпадку рэйтынг даверу да кожнага абвінавачання, падтрыманага пракуратурай! Як разам змоўкнуць тыя, хто скептычна крывіцца пры кожным згадванні антыкарупцыйных ініцыятываў!..

Або вось у судах у нас праблемы. Бязрукія, згодна з нашымі судовымі вердыктамі, пляскаюць у ладкі, а нямыя гарлапаняць матам. Але вядае свет гэтую праблему, ведае і рашэнне. Таемным галасаваннем адвакатаў выбіралі новых кіраўнікоў судовай сістэмы і ўводзілі фінансавую адказнасць суддзяў за несправядлівыя прысуды. І ўсё!

Калі здаровая галава, то цудоўным чынам аздараўляецца і ўся сістэма. Тым больш калі суддзя ведае, што ў выпадку чаго прадасць сваю кватэру, без штаноў застанецца, але будзе выплачваць кампенсацыю таму, каго незаконна пасадзіў. Тады аўтаматычна і следства падцягваецца да належнага ўзроўню, і аператыўнікі вывучаюць закон.

Зразумела, што і пра ўпаўнаважанага па правах чалавека Міклашэвіч з Лукашэнкам таксама могуць гаварыць гадзінамі, месяцамі і нават гадамі. Але гэтае рашэнне на паверхні, таму не трэба свістаць. Мандат — Бяляцкаму! І толькі тады сціхне гамерычны рогат у зале.

**Святлана Калінкіна.**

САЛІДАРНАСЦЬ

# "РУКІ ЎЛАДАЎ БЕЛАРУСІ БУДУЦЬ У КРЫВІ, КАЛІ ЁН ПАМРЭ"

ПРЭЗІДЭНТ ЕЎРАПАРЛАМЕНТА (ЕП) МАРЦІН ШУЛЬЦ «УЗРУШАНЫ ПАГАРШЭННЕМ СІТУАЦЫІ З ДЭМАКРАТЫЯЙ І ПРАВАМІ ЧАЛАВЕКА Ў БЕЛАРУСІ». ПРА ГЭТА ЁН ЗАЯВІЎ 14 ЛЮТАГА Ў СТРАСБУРГУ ПАСЛЯ СУСТРЭЧЫ З КАМІСАРАМ ЕЎРАСАЮЗА ПА ПЫТАННЯХ ПАШЫРЭННЯ І ПАЛІТЫКІ ДОБРАСУСЕДСТВА ШТЭФАНАМ ФЮЛЕ, НА ЯКОЙ ЯНЫ АБМЯРКОЎВАЛІ СІТУАЦЫЮ Ў БЕЛАРУСІ, ПАВЕДАМЛЯЕ ПРЭС-СЛУЖБА ПРАДСТАЎНІЦТВА ЕС У МІНСКУ.

*«Працяглая галадоўка, якую праводзіць актывіст апазіцыі Сяргей Каваленка, што знаходзіцца ў зняволенні, высвеціла парушэнні дэмакратычных прынцыпаў і непавагу да вяршэнства закона. Жыццё Каваленкі зараз знаходзіцца ў небяспецы з-за галадоўкі, якую ён праводзіць у сувязі з незаконным зняволеннем»*, — гаворыцца ў заяве.

Шульц заклікаў беларускія ўлады неадкладна і без усякіх умоў вызваліць Каваленку і аказаць яму ўсю неабходную медыцынскую дапамогу, перадае БелаПАН. *«Рукі ўладаў Беларусі будуць у крыві, калі ён памрэ»*, — падкрэсліў Шульц.

Ён таксама зноў заклікаў вызваліць і рэабілітаваць усіх палітзняволеных, сярод якіх два экс-кандыдаты ў прэзідэнты Мікалай Статкевіч і Андрэй Саннікаў, выбітны праваабаронца Алесь Бяляцкі, апазіцыйныя актывісты Дзмітрый Бандарэнка, Мікалай Аўтуховіч, Дзмітрый Дашкевіч і іншыя.

*«Я таксама зноў паўтару мой персанальны зварот да прэзідэнта Лукашэнкі з просьбай памілаваць Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава, якія знаходзяцца ў камеры смяротнікаў па рашэнні Вярхоўнага суда*, — сказаў Шульц. — *Мы выступаем супраць смяротнай кары пры любых акалічнасцях і зноў заклікаем Беларусь, якая застаецца адзінай краінай у Еўропе, дзе прымяняецца гэты від пакарання, увесці мараторый»*.

Шульц зазначыў, што 16 лютага Еўрапарламент будзе абмяркоўваць праблему прымянення смяротнай кары ў Беларусі, Егіпце і Японіі і выступіць з адпаведнымі рэзалюцыямі.

*«Мы глыбока перажываем, што пазіцыя ўладаў захоўвае адносіны паміж Беларуссю і ЕС замарожанымі*, — сказаў Шульц. — *Грамадзяне Беларусі заслугоўваюць лепшага. Еўрапарламент рашуча падтрымлівае грамадзянскую супольнасць і дэмакратычныя памкненні беларускіх людзей, а таксама заклікае Мінск адказаць на прапанову ЕС па спрашчэнні візавых працэдур для беларускіх грамадзян»*.

Нагадаем, актывіст Кансерватыўна-хрысціянскай партыі — БНФ Сяргей Каваленка быў затрыманы ў снежні ў рамках крымінальнай справы па артыкуле 415 КК (ухіленне ад адбывання пакарання ў выглядзе пазбаўлення волі). Яму пагражае да трох гадоў пазбаўлення волі. Падставай для крымінальнага пераследу сталі чатыры парушэнні, якія Каваленка нібыта ўчыніў, адбываючы пакаранне па прыгаворы суда Кастрычніцкага раёна Віцебска. У маі 2010 года суд прыгаварыў яго да трох гадоў пазбаўлення волі ўмоўна за вывешванне бел-чырвона-белага сцяга на галоўнай ёлцы Віцебска 7 студзеня.

Галадоўку Каваленка аб'явіў у знак нязгоды са сваім затрыманнем. Жонка апазіцыянера Алена Каваленка са спасылкай на адваката сцвярджае, што галадоўка была прыпынена супрацоўнікамі СІЗА насільна 17 студзеня: Сяргею пачалі ўводзіць ежу праз зонд. Затым, паводле інфармацыі адміністрацыі ізалятара, Каваленка непрацяглы час раз у суткі прымаў ежу самастойна. Аднак на гэты час, паводле слоў адваката, ён поўнасцю адмовіўся прымаць ежу, у тым ліку і праз прымусовае кармленне, паведамляе праваабарончы сайт **www.spring96.org.**

ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ

# ДЗЯРЖКАНТРОЛЬ КРЫТЫКУЕ РАЗВІЦЦЁ ВІЦЕБШЧЫНЫ

НА ПАСЯДЖЭННІ ВІЦЕБСКАГА АБЛВЫКАНКАМА СТАРШЫНЯ ДЗЯРЖКАНТРОЛЯ АЛЯКСАНДР ЯКАБСОН КРЫТЫЧНА ВЫКАЗАЎСЯ НАКОНТ РАЗВІЦЦЯ ПРАМЫСЛОВАГА ПАТЭНЦЫЯЛУ РЭГІЁНА. УДЗЕЛЬНАЯ ВАГА ВІЦЕБШЧЫНЫ Ў ВУП БЕЛАРУСІ Ў 2011 ГОДЗЕ СКЛАЛА ТОЛЬКІ 8,6%.

Паводле інфармацыі БЕЛТА, Аляксандр Якабсон звярнуў асаблівую ўвагу на шэраг пытанняў, якія патрабуюць неадкладнага вырашэння ў 2012 годзе. На думку старшыні КДК, адно з іх датычыцца прыцягнення прамых замежных інвестыцый. «На эмісійным шляху развіцця эканомікі пастаўлены заслон, таму так важна прыцягненне замежных інвестыцый», - падкрэсліў Аляксандр Якабсон. У 2011 годзе перад вобласцю стаяла задача прыцягнуць $ 637млн., прыцягнута ўсяго 3,4% ад задання. У 2012 годзе заданне скарочана амаль у пяць разоў да $ 143 млн., аднак і выкананне гэтага плана зноў выклікае сумнеў, бо за студзень прыцягнута ўсяго $ 4,5 млн, канстатаваў кіраўнік КДК.

Магутны прамысловы патэнцыял Віцебскай вобласці выкарыстоўваецца не ў поўнай меры, лічыць Аляксандр Якабсон. Удзельная вага ў валавым унутраным прадукце Беларусі склала 8,6%. Прычыны гэтага, як лічыць кіраўнік кантрольнага ведамства, крыюцца ў нізкай рэнтабельнасці продажаў і нізкай прадукцыйнасці працы ў прамысловасці.

Нявырашаныя праблемы маюцца ў сельскай гаспадарцы. Па тэмпах росту аб'ёмаў вытворчасці ў сельскай гаспадарцы вобласць знаходзіцца ў лідэрах і займае 2-е месца па ўдзельнай вазе ў рэспубліканскім аб'ёме сельгасвытворчасці. Аднак яе эфектыўнасць невысокая. Аляксандр Якабсон звярнуў увагу на неабходнасць больш хуткага пераходу сельгасвытворчасці на якасны ўзровень, павышэння рэнтабельнасці, ураджайнасці, нарошчвання прыбаўленняў у вазе.

Асаблівую трывогу КДК выклікае работа па паляпшэнню ўрадлівасці глебаў у вобласці. Па дадзеных камітэта, мінулай восенню ў глебу ўнесена 26% угнаенняў ад патрэбы. Напярэдадні пасяўной запасы мінеральных угнаенняў складаюць усяго сёмую частку ад патрэбы. Сярод недахопаў у дзейнасці рэгіёну Аляксандр Якабсон таксама назваў рост пазыковых абавязацельстваў і запатрабаваў зрабіць больш жорсткім эканомію бюджэтных сродкаў.

**Л. Антонаў.**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V),

**Падпісана да друку 16.02.2012 у 19.50.** Наклад: 290 асобнікаў.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.